№ 60 (1623)
Серада, 2 красавіка 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень
Кошт свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**

# Народная Воля

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### *Надвор'е*

Сёння ўдзень у абласных цэнтрах чакаецца: у Мінску — +2...+4, уначы — -1...+1, у Віцебску — 0...+2, уначы — -4...-6, у Брэсце — +9...+11, уначы — +4...+6, у Гомелі — +1...+3, уначы — -1...-3, у Гродне — +6...+8, уначы — +4...+6, у Магілёве — +1...+3, уначы — -1...-5. У Мінскай, Брэсцкай, Гродзенскай абласцях воблачна, у Віцебскай, Гомельскай, Магілёўскай — ясна. Па ўсёй тэрыторыі без ападкаў. Вецер паўднёва-ўсходні, 2—5 м/с.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## 26 красавіка ў Мінску адбудзецца традыцыйны «Чарнобыльскі Шлях»

Аб гэтым заявілі прадстаўнікі шэрагу палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў на пасяджэнні ініцыятыўнай групы па правядзенні акцыі 31 сакавіка ў Мінску.

Адказны сакратар управы Партыі БНФ Аляксей Кавалец прапанаваў выбраць кіраўніком аргкамітэта акцыі вядомага беларускага вучонага, члена-карэспандэнта Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Івана Нікітчанку.

Іван Нікітчанка заявіў, што трэба падрыхтаваць зварот да беларускага народа ў сувязі з 17-й гадавінай трагедыі на Чарнобыльскай АЭС, а таксама накіраваць заяўку ў Мінгарвыканкам на правядзенне шэсця і мітынгу. Прычым, як мяркуе вучоны, заяўку трэба падпісаць прадстаўнікам усіх палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў, якія маюць намер удзельнічаць у акцыі.

**Марат ГАРАВЫ.**

## У новага міністра, мабыць, будуць і новыя намеснікі

Прызначэнне Сяргея Мартынава новым міністрам замежных спраў Беларусі, падобна, пацягне за сабой замену і некаторых намеснікаў міністра. Перш за ўсё гаворка ідзе пра правую руку Сяргея Мартынава — першага намесніка. Як вядома, гэтую пасаду зараз займае Васіль Пугачоў. На пачатку года "Народная воля" ўжо пісала, што ён збіраецца пераехаць у Токіо, дзе будзе працаваць амбасадарам Беларусі ў Японіі. Гэтыя звесткі пацвярджаюцца.

А вось хто запоўніць вакансію першага намесніка, пакуль дакладна невядома. Найбольш верагодным кандыдатам лічыцца цяперашні амбасадар Беларусі ў Францыі Уладзімір Сянько, які да канца 1996 года ўзначальваў знешнепалітычнае ведамства Беларусі.

**Уладзімір КОТ.**

## Літоўскія парламентарыі патрабуюць спыніць пераслед апазіцыянераў Беларусі

Пікет у знак пратэсту супраць рэпрэсій, якім падвергліся ўдзельнікі апошніх масавых акцый апазіцыі ў Мінску, прайшоў 31 сакавіка каля беларускага пасольства ў Літве.

У пікеце ўзялі ўдзел дэпутаты літоўскага парламента Вітаўтас Ландсбергіс, Арвідас Віджунас і Юргіс Разма разам з некалькімі членамі партыі "Саюз Айчыны — літоўскія кансерватары", а таксама беларусы, якія жывуць у Літве. Удзельнікі пікета стаялі каля агароджы пасольства з бел-чырвона-белымі сцягамі і плакатамі.

У беларускае пасольства перададзена петыцыя, у якой літоўскія парламентарыі выказалі сваё стаўленне да падзей у Беларусі.

## Яўген Новікаў папросіць прабачэння

Мінскі гарадскі суд не задаволіў скаргу тэлевядучага Яўгена Новікава на рашэнне суда Першамайскага раёна беларускай сталіцы па справе Саюза Хрысціян веры евангельскай (ХВЕ) ў Рэспубліцы Беларусь і абшчыны ХВЕ горада Старыя Дарогі (Мінская вобласць).

24 снежня 2002 года суд Першамайскага раёна Мінска разглядаў справу пра абарону гонару і дзелавой рэпутацыі. Заяўнікамі іску выступілі Саюз ХВЕ і царква ХВЕ Старых Дарог. Яны падалі ў суд на Нацыянальную дзяржаўную тэлерадыёкампа[illegible] Беларусі, Яўгена Новікава (аўтара праграмы "Правы чалав[illegible] погляд у свет") і рэдакцыю газеты "Навіны Старадарожчыны", якія абвінавацілі пратэстанцкую царкву ў Старых Дарогах ва ўчыненні цяжкога злачынства. Суд вырашыў прызнаць, што выкладзеныя Я.Новікавым у праграме "Правы чалавека: погляд у свет" звесткі не адпавядаюць сапраўднасці і ганьбяць дзелавую рэпутацыю Саюза ХВЕ і пратэстанцкай царквы ў Старых Дарогах.

Суд прыняў рашэнне абавязаць Я.Новікава ў адной з інфармацыйна-палітычных праграм прынесці прабачэнні на адрас царквы ХВЕ і Саюза ХВЕ.

Паводле рашэння гарадскога суда, рашэнне суда Першамайскага раёна засталося ў сіле. "Рашэннем суда мы задаволены, — сказала ў інтэрв'ю БелаПАН юрыст, прадстаўнік Саюза ХВЕ ў судзе Дзіна Шаўцова. — Аднак суд не задаволіў усе іскавыя патрабаванні".

**Аляксей ШЭІН.**

## Еўрапейскі Саюз занепакоены нашымі правамі

Еўрапейскі Саюз "глыбока занепакоены пагаршэннем сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі". Пра гэта гаворыцца ў "Заяве Еўрасаюза з прычыны парушэнняў свабоды слова ў Беларусі".

У дакуменце чарговы раз выказваецца заклапочанасць членаў Еўрапейскага Саюза з прычыны фактаў арыштаў і заключэння пад варту "некаторых удзельнікаў мірных дэманстрацый, што прайшлі ў Мінску апошнім часам".

"Разумнае імкненне да падтрымання грамадскага парадку ні ў якім разе не павінна весці да абмежаванняў і парушэнняў правоў на правядзенне дэманстрацый і свабоды слова", — сцвярджае ў гэтай сувязі кіраўніцтва Еўрасаюза.

**Юрый ШЫРОКІ.**

## Васілю Быкаву ў Празе зроблена складаная аперацыя



Складаная аперацыя на страўніку была зроблена 27 сакавіка ў адной з найлепшых клінік Прагі народнаму пісьменніку Беларусі Васілю Быкаву. Цяпер ён пачувае сябе добра. Пра гэта паведаміў БелаПАН прадстаўнік беларускай дыяспары ў Чэхіі Сяргей Навумчык.

"Урачы лічаць, што пры такім развіцці пасляаперацыйнага перыяду праз тыдзень пісьменнік можа быць выпісаны з бальніцы для праходжання рэабілітацыі і амбулаторнага лячэння дома", — зазначыў С.Навумчык.

**Марат ГАРАВЫ.**

**"Народная воля" жадае Васілю Уладзіміравічу найхутчэйшага выздараўлення!**

**ДОЖИЛСЯ...**

## Даже коммунисты не верят Селезневу

*Газета "Советская Россия" опубликовала большую статью "Распрощаться с диктатом".*

Ее автор заостряет внимание на том, что сроки завершения разработки и согласования Конституционного акта уже неоднократно устанавливались и столь же неоднократно переносились. "И главной причиной этого — будем говорить прямо — было желание российской стороны в той или иной степени зафиксировать свое преимущество при дальнейшем строительстве Союзного государства, то есть фактически в одностороннем порядке распространив царящие в России нравы, а также элементы экономической и политической систем на территорию Республики Беларусь", — отмечает Олег Черковец. По его мнению, спешить в таком сверхважном для судеб народов обеих стран деле недопустимо.

Так кто же торопит принятие Конституционного акта? Газета называет этого человека — руководителя совместной комиссии по доработке Конституционного акта, председателя Парламентского собрания Союза Беларуси и России, председателя Госдумы Геннадия Селезнева. Отмечается, что в последнее время он сделал слишком много заявлений относительно необходимости скорейшего принятия Конституционного акта. Газета пишет: "Вы можете себе представить, какой "сырости" документ готов был вынести на референдумы человек, отвечающий за его качественную доработку, и к каким политическим последствиям могло привести стремление как можно скорее положить "законченный текст" на стол высшего кремлевского начальника? Видимо, плохи политические перспективы внутри России у бывшего коммуниста Селезнева, если он любой ценой хочет как можно скорее, не глядя на качество, попытаться "протолкнуть" текст Конституционного акта, а затем, быть может, избраться в Союзный парламент?".

О желании Селезнева возглавить Союзный парламент в последнее время ходят упорные слухи. И дело не только в том, что весьма проблематично выглядит возможное руководство Селезневым в третий раз подряд Государственной думой России. Поговаривают, что среди возможных вариантов развития политических событий в Российской Федерации есть и вариант с ликвидацией Российского парламента как такового. Предположительно схема выглядит так — выборы в Госдуму в конце нынешнего года совмещаются с референдумом по Конституционному акту. Это позволяет Кремлю, во-первых, выбить интеграционную карту у коммунистов, во-вторых, провести в Думу как можно больше своих сторонников. Весной проводятся выборы в Союзный парламент. После того как он начнет работать (возможно, под руководством Геннадия Селезнева), возникнет законный вопрос: а зачем иметь три парламента — Союзный, Госдуму и Палату представителей? Вполне можно обойтись одним. И в этой ситуации хитрость, лукавство и прочие подобные атрибуты спикерской деятельности Геннадия Селезнева, уже не раз продемонстрированные, им будут, как никогда, кстати. Вот почему даже коммунисты не хотят верить Геннадию Селезневу.

**Владимир ГЛОД.**

**ЗАКУЛИСЬЕ**

## Очередное пришествие Сергея Тетерина?

*В ближайшее время поменяется руководство Республиканского спортивно-оздоровительного комплекса "Раубичи". Осведомленные люди говорят, что вместо* **Александра Хандогина,** *который проработал директором комплекса более 13 лет, придет* **Сергей Тетерин,** *бывший помощник президента по спорту.*

Как оказалось, не только "Народная воля" интересуется судьбой Александра Хандогина.

"Мне вчера позвонили и сообщили, что якобы уже сегодня в "Раубичах" будет работать новый директор, — говорит Александр Петрович. — Честно говоря, шел на работу с опаской: может, и в самом деле, пока один день в городе провел, уже и кабинет заняли? Пришел — вроде бы все нормально...

Я тринадцать лет проработал руководителем "Раубичей". Это немаленький срок. Или вы считаете, что я тут должен до пенсии сидеть?..

Все идет в русле изменений, которые запланированы новым руководством Министерства спорта и туризма и направлены на совершенствование работы отрасли. Что касается лично меня, то пока окончательное решение не принято. Во всяком случае документально не оформлено.

Я пока еще строю планы на будущее. 10 апреля должно состояться заседание оргкомитета по подготовке к Олимпийским играм в Афинах, где планирую рассказать, насколько "Раубичи" готовы работать с национальными командами, которые за нами закреплены.

В следующем году готовимся отметить 30-летие спорткомплекса. Словом, работа идет полным ходом...".

Александр Хандогин — четвертый директор "Раубичей". Все руководители приходили в "белорусскую Швейцарию" с весьма солидных должностей. Например, Хандогин до "Раубичей" работал первым зампредом Госкомспорта, его предшественник — главным специалистом Совмина.

"Наверное, новый директор тоже должен иметь солидный должностной багаж, — рассуждает Александр Петрович. — Хотя были случаи, когда некоторые кандидаты в руководители уже чуть ли не обмывали свои должности, а потом никаких назначений не было. Но поживем — увидим. Кадровые рокировки — это нормальное явление".



*Александр Хандогин.* *Сергей Тетерин.*

По нашей информации, для Александра Хандогина уже приготовили новую, довольно солидную должность.

О человеке, которого сегодня называют новым директором "Раубичей", известно немного.

**Сергей Семенович Тетерин** родился 7 января 1961 года в Минске.

Окончил Белорусский государственный институт физической культуры (1980). В 1980—1984 годах — тренер по теннису в Турции, США. В 1993—1995 годах гос.тренер по теннису Министерства спорта и туризма Республики Беларусь. С 1997 года — первый заместитель министра спорта и туризма Республики Беларусь.

Помощником президента по вопросам физкультуры, спорта и развития туризма стал в апреле 1999 года, в один день с назначением экс-министра спорта и туризма Евгения Ворсина.

Вице-президент ассоциации тенниса Республики Беларусь.

Женат, имеет дочь.

В бытность помощником президента по спорту Тетерин не мог найти общий язык с экс-заместителем главы Администрации Владимиром Заметалиным. Несколько раз даже писал заявление об уходе.

Сегодня, рассказывают, иногда играет с А.Лукашенко в хоккей.

С журналистами вежлив и корректен.

**Леонид РОМАНОВ.**

**ДИСКУССИЯ**

## Нельзя объединять мыльные пузыри



**Анатолий ЛЕБЕДЬКО, председатель Объединенной гражданской партии**

Многие форумы последних месяцев очень похожи друг на друга. Идут бесконечные уговоры одних объединяться с другими... При этом не называются ни фамилии, ни даже организации, партии. Этакая электростанция без проводов. Турбины гудят, а вокруг темень.

Мой голос, однако, не против объединения, он против объединительного популизма.

20 апреля в статье "Пока не поздно!", опубликованной в "Народной воле", уважаемый Вячеслав Оргиш предложил очередной план объединения и действий, в соответствии с которым партии ни больше ни меньше *"обязаны произвести всеобщее построение своих рядов и провести объединительный съезд, должны выйти из теплых офисов, а руководители вместе с членами ЦК разбить палатки на улицах Энгельса и Маркса..."*. Я не против бесплатных советов. Но вопрос в том, как они сформулированы и что за ними стоит в реальности.

Позвольте возразить, что не все и всех можно объединять. К примеру, нельзя объединять мыльные пузыри. Они лопаются, превращаются в мокрые пятна и испаряются. Иногда на уличных акциях сотрудники силовых ведомств в гражданском и участники акций идут объединенной колонной. Но это не значит, что они вместе. Одни покидают мероприятия в "автозаках", другие — на "Волгах". Как утверждают острословы, скрещивая ежа и гадюку, в лучшем случае можно получить полметра колючей проволоки. Невозможно объединять заклинания. Конечно, попробовать можно, но быстро садятся батарейки голосовых связок. Мне почему-то кажется, что людей объединяют идеология, интересы, реалистичные сценарии и планы, но не призывы, прожекты и заклинания.

Нельзя подменять объединение процессом коллективизации. Мы уже проходили этот процесс, когда наших дедов и отцов убеждали, что как только они приведут на колхозное подворье скотину и принесут упряжь, наступит всеобщее изобилие. Не наступило. Если следовать логике всех собрать в одну кучу, то необходимо объединить редакции всех негосударственных газет. Сомнительно, однако, что это решит проблему информационной блокады населения Беларуси. Такое ощущение, что инициаторы подобных идей и их пропагандисты проживают в другом мире и в Беларусь приезжают, как в командировку. Все громче раздаются голоса: давайте распустим все демократические партии и создадим одну, но большую. Кажется, так просто и гениально. Вот только кто зарегистрирует эту суперпартию?

Да и кто сказал, что результатом такого административного объединения станет арифметическое сложение списочных составов партий? На таком сценарии интеграции партии потеряют как минимум одну треть своих членов.

Политическая партия — это все же коллектив личностей, а не армейский батальон. Люди идут в партию не для того, чтобы маршировать по плацу и выполнять команду "упал — отжался". Пора бы понять простую истину, что члены политических партий — это не камикадзе и не пушечное мясо. Это нормальные, живые люди. В сегодняшних условиях по ряду объективных причин нельзя построить повзводно и отправить партийных активистов разбивать палатки под окнами резиденции Лукашенко. Это можно, если приверженцы политического экстрима создадут благотворительный фонд, из которого будут содержать арестованных, осужденных, уволенных и их семьи. И вопрос здесь не в отсутствии буйных и смелых. Акции 12, 23 и 25 марта доказывают, что такие люди есть. Проблема в том, что об их смелости знает узкий круг читателей негосударственной прессы.

Предложение покинуть теплые кабинеты звучит как тест на проверку руководства политических партий. Будто их штаб-квартиры в Женеве или на Лазурном побережье Франции. Не буду говорить за других. Но по отношению к отсидевшим не один месяц в тюрьме Михаилу Чигирю, Андрею Климову, Василию Старовойтову, побывавшему под дубинками профессору Станиславу Богданкевичу это звучит по меньшей мере некорректно. А ведь это все члены ЦК ОГП. Члены Политсовета партии Людмила Грязнова и Леонид Малахов только на прошлой неделе покинули нары на Окрестина. Некоторые мои коллеги, входящие в состав того же ЦК, Виктор Гончар, Юрий Захаренко не могут по известным причинам разбить палатку на лужайке возле "Красного дома".

Предложение Оргиша провести ревизию в партиях и фактически ввести внешнее управление нельзя назвать новаторским. В ОГП только что закончила проверку налоговая инспекция. Сейчас налоговики выполняют указание "Красного дома" и прессингуют почти 40 членов Политсовета и Национального комитета, проверяя состояние их финансовых дел, начиная с 1997 года. Не разошлись круги от проверки с пристрастием Министерства юстиции, по истечении которой было заявлено, что есть основания для закрытия ОГП. За руководством партии идет тотальная слежка и прессинг со стороны спецслужб. И вот еще одни ревизоры. Успокаивает, что это будут демократические контроль и проверка.

Не стоит чесать всех под одну гребенку. Как призывает один из персонажей телерекламы, говорите точно. Кто, когда, в чем, и по какому случаю разъединяет. А так получается, что все в дерьме, а мы в белом фраке и лайковых перчатках.

Кстати, у нас не так уж и много реально действующих демократических партий. Самый эффективный путь реализации своих прожектов — это вступить в одну из них и лучше всего возглавить ее. Это в России очереди известных певцов, ученых, литераторов к офису "Единой России" напоминают давку за импортным дефицитом в застойные времена. В Беларуси это не бравада и не модное увлечение. Здесь надо иметь недюжинное мужество, чтобы состоять в партии, оппонирующей власти.

Безусловно, что проблем великое множество. Слабая инфраструктура партий в регионах, боязнь и незащищенность людей, переступающих черту страха, отсутствие информационных и иных ресурсов, достаточно профессиональная работа спецслужб по созданию "кризисов в оппозиции". Это все есть, но не надо искусственно смещать центр тяжести существующих проблем. И я преклоняюсь перед десятками тысяч людей, которые не теряют ни веры, ни мужества, ни силы духа! И объединяться надо не вообще, а вокруг конкретных сценариев и проектов.

К примеру, сейчас можно и нужно объединить усилия в рамках двух общенациональных кампаний — "За честные парламентские выборы" и "Беларуси нужен новый президент". Давайте работать!

**ВОЙНА В ИРАКЕ**

## Хусейн заперся в своем бункере под Багдадом

### И в Минск не прилетал. Вчерашнюю шутку «Народной воли», однако, поняли не все

Самый веселый день в году — 1 апреля — начался для коллектива "Народной воли" с недоуменных взглядов и порой возмущенных телефонных звонков: "Неужели Саддам Хусейн в Минске и скрывается от мирового сообщества в Дроздах?" Причем недоумевали даже некоторые наши сотрудники, не говоря уже о жителях отдаленных мест Беларуси.

Еще раз напоминаем, что вчера во Франции вешали на спину "пуассон д'авриль" (апрельскую рыбку), в Англии и США шутили по поводу "дня дураков", у нас, в Беларуси, обнаруживали у соседей белую спину и кричали громко: "Первое апреля — никому не верю!", а в "Народной воле" — приземлили самолет Саддама Хусейна в Национальном аэропорту "Минск". Мы, конечно, разыграли Вас, уважаемые читатели! И разместили, кстати, об этом информацию на третьей полосе в самом конце "Дайджеста". Читайте газету внимательно, дорогие друзья! Хотим подчеркнуть, что цель нашей первоапрельской акции — как-то встряхнуть общество, заставить его задуматься о возможных последствиях сотрудничества нынешнего руководства Беларуси с руководством Ирака.

Иракский диктатор, как и прежде, находится в окрестностях Багдада, в одном из своих секретных бункеров. И покидать его пока не собирается. Тем более что, как признался агентству "Ассошиэйтед Пресс" немецкий инженер Карл Эсер, выполнявший заказ по строительству убежища Хусейна, оно способно выдержать любые бомбардировки. Поразить его можно только **"прямым попаданием небольшой атомной бомбы",** сопоставимой по мощности с той, что была сброшена на Хиросиму. Такую бомбу американцы еще не сбрасывали и, судя по всему, сбрасывать не будут.

А теперь о других новостях из воюющего Ирака.

### Союзники пытаются помешать бегству иракского диктатора

Телекомпания Эн-Би-Си со ссылкой на источники в штабе Центрального командования союзников в Катаре утверждает, что у американской разведки есть сведения о возможном бегстве Саддама Хусейна в Сирию. США уже предупредили правительство Сирии о том, что оно стоит "перед критически важным выбором".

Материалы, полученные американской разведкой, свидетельствуют о том, что вопрос об отъезде Саддама Хусейна из Багдада в Сирию обсуждается иракским руководством.

Между тем бегство Хусейна в Сирию, где он сохранил бы все рычаги управления ситуацией, категорически не устраивает Вашингтон. Об этом, выступая перед представителями американских еврейских организаций, заявил госсекретарь США Колин Пауэлл. Причем речь идет не только о намерении руководства этой страны предоставить политическое убежище иракскому диктатору, но и об оказываемой Дамаском посильной помощи иракскому руководству в отражении вторжения сил союзников. Как заявил Пауэлл, "Сирия может продолжать прямую поддержку террористических групп и умирающего режима Саддама Хусейна или может пойти другим, более перспективным, курсом".

### Американцы готовятся «заплатить очень высокую цену» за свержение Хусейна

США готовы заплатить "очень высокую" в смысле человеческих жертв цену за захват Багдада и свержение президента Саддама Хусейна. Об этом заявил анонимный представитель центрального командования США. "Мы приготовились заплатить очень высокую цену, поэтому нас не устроит ничто другое, кроме уверенности в том, что этот режим свергнут", — заявил источник, добавив при этом, что за 12 дней военных действий американцы понесли лишь легкие потери. "Если суждено быть большому числу жертв, то будет большое число жертв", — отметил представитель центрального командования. Кроме того, источник отметил, что репортажи журналистов, находящихся в районе боевых действий, создали у людей впечатление того, что в Ираке происходит "непрерывный жестокий бой". Эти репортажи, сказал источник, описывают военную кампанию гораздо более сложной, чем она есть на самом деле. "На самом деле там этого не происходит. Там идут военные действия, время и место которых выбираем мы", — сказал представитель центрального командования.

### «Наши пустыни станут кладбищем для американских и британских солдат»

Министр иностранных дел Ирака Наджи Сабри призвал солдат коалиции сложить оружие. "У американцев и британцев нет другого выбора, — заявил он, — они должны сдаться и уйти из Ирака". "Мы превратим наши пустыни в огромное кладбище для американских и британских солдат. Никто из них не вернется домой, если они будут упорствовать в своей агрессии против нашей страны", — добавил он.

**Александр СИЛИЧ.**

## Да сустрэчы ў пятніцу

*Шаноўныя сябры!*

*Наступны нумар "Народнай волі" выйдзе ў пятніцу, 4 красавіка. Але не крыўдуйце на нас: у любым выпадку да канца года будзе 250 выхадаў, як і прадугледжана абавязацельствамі рэдакцыі перад падпісчыкамі. Да сустрэчы ў пятніцу!*

**Рэдакцыя газеты "Народная воля".**

ЖИЛЬЕ

# Сладкие обещания и горькая реальность,

## или Печальная повесть о том, как у нас украли... квартиры

*Если отбросить эмоции, то самое главное в жизни — крыша над головой и продукты. Если нет этого — не будет ничего. Ни здоровья, ни хорошего настроения, ни успехов, как говорили раньше, в труде и личной жизни. Человек без квартиры — бомж.*

*Даже любая птичка прежде всего начинает строить гнездо. Как же молодым людям "свить" свое семейное гнездышко?*

*Если послушать высоких начальников и их пропагандистов, то больших проблем с этим вроде бы и нет. Потому что власти якобы днем и ночью думают о строительстве квартир и решении жилищной проблемы. Осталось, мол, еще немножко подождать. И обещают, обещают, обещают... А очереди на жилье как были, так и остаются.*

### Сладкие обещания

Немало наобещал бесквартирным Александр Лукашенко. Он вообще непревзойденный мастер в этом деле. Еще в 1994 году, будучи кандидатом в президенты, утверждал, что жилищное строительство станет "объектом приоритетного финансирования и постоянного внимания государства", что будет разработана система государственных субсидий и льготного кредитования строительства частного жилья...

В "Основных направлениях социально-экономического развития Республики Беларусь на 1996—2000 годы" записано, что все граждане, имеющие право на бесплатное жилье, получат его не позднее 1999 года. А жилищное строительство наберет такие темпы, что в 2000 году ввод в действие домов и квартир превзойдет уровень 1990 года.

Эти обещания так и остались пустым звуком. После 1999 года минуло три зимы и столько же лет. Очередь на получение жилья так и не уменьшилась. По состоянию на начало 2001 года на учете нуждающихся в улучшении жилищных условий стояло 568,8 тысячи семей и одиноких граждан. Если учесть, что семья состоит как минимум из 2—3 человек, то получается, что в жилищной очереди страны более миллиона человек. Примерно столько же, сколько было и десять лет назад.

А теперь о достижении уровня 1990 года. В том году в Беларуси было построено 5282 тысячи квадратных метров общей жилой площади. В 2002 году — 2825 тысяч квадратных метров, почти в два раза меньше. Вот так, стало быть, вышли на запланированный уровень.

Казалось бы, давно наступило время публично разобраться в причинах провала строительной программы да извиниться перед избирателями и народом, что слово свое не сдержали. Вместо этого Александр Григорьевич раздает новые обещания. Вот строки из его предвыборной программы 2001 года:

"В новом пятилетии квартиры и дома будут строиться еще активнее. Будут всячески поддерживаться и поощряться индивидуальные застройщики... Каждая семья, каждый нуждающийся должен и будет иметь реальную перспективу построить свой дом".

Как видим, те же сладкие обещания. Реальность, увы, иная, горькая. Посмотрим на нее.

### Горькая реальность

Заиметь свою квартиру всегда было трудно. Ранее многие стояли в очереди на получение жилья по 15—20 лет. Только к сорока годам получали "свой угол". Правда, бесплатно. Это была хоть и далекая, но все-таки перспектива.

Кто не хотел долго ждать, мог вступить в жилищно-строительный кооператив. Первый взнос был сравнительно небольшим. С помощью родителей, родственников на него можно было собрать денег. Оплата квартиры в рассрочку растягивалась на многие годы, что было выгодно населению.

В том же 1990 году было построено 5282 тысячи квадратных метров общей жилой площади. За счет государственных средств — 3731 тысяча квадратных метров. Жилищно-строительные кооперативы возвели домов общей площадью 649 тысяч квадратных метров, индивидуальные застройщики — 399 тысяч квадратных метров. В сумме они — 1048 тысяч квадратных метров. Словом, сами граждане за свои средства построили лишь пятую часть жилья. К тому же они получили возможность оплаты его в рассрочку на многие годы. 4/5 всех квартир распределялись по очереди бесплатно.

Но в последующие годы, особенно после 1994-го, картина начинает резко меняться. Во-первых, резко падают темпы строительства. Если в 1994 году построили 3403 тысячи квадратных метров жилья, то в 1995-м — уже только 1956 тысяч квадратных метров, на треть меньше. К тому же финансирование строительства все больше перекладывается на плечи граждан.

В прошлом году всего возведено домов общей площадью 2825 тысяч квадратных метров. Из них за счет населения построено 2142 тысячи квадратных метров, или почти 80 процентов. За счет республиканского бюджета построено 45 тысяч квадратных метров, за счет местных бюджетов — 174 тысячи квадратных метров, в сумме — 219 тысяч квадратных метров, или примерно 3,6 тысячи квартир. Это, очевидно, и есть то социальное бесплатное жилье, которым так любит хвалиться белорусская власть. Для сравнения замечу: в 1990 году было построено почти 70 тысяч бесплатных квартир. Представьте: 3,6 тысячи и 70 тысяч. Какая огромная разница!

О том, что социального жилья строится мало, признает и сам Лукашенко. Отвечая на вопрос жительницы Лепеля во время "прямой линии" с читателями "Советской Белоруссии" и "Комсомольской правды", он отметил: "Бюджетные деньги сколько можем, столько и выделяем, потому что это же бесплатная квартира. Денег в бюджете немного, и сегодня социальное жилье в стране хоть и строится, но его мало для того, чтобы удовлетворить всех нуждающихся. Мы перешли сейчас на кредиты. Льготные кредиты и кредиты полные, чтобы население само строило себе жилье. Но и этих денег сегодня не хватает под льготные кредиты. Я понимаю, что вы сами за свои деньги построить жилье сегодня не сможете, поэтому по очереди, как это принято, будем вас поддерживать".

Как видим, никакой конкретики. Вообще, власть в последнее время избегает конкретных цифр, которые касаются социального жилья. Но и так из ответа Александра Григорьевича жительнице Лепеля видно, что дело со строительством жилья — дрянь.

Как видим, сейчас надеяться на бесплатную квартиру просто бессмысленно. Ее надо строить самому. Стоит она довольно дорого.

### Хочешь квартиру? Выкладывай 20—50 тысяч долларов

Итак, сколько стоит квартира в Минске? Листая многочисленные издания, знакомлюсь с расценками. Вот неплохие кирпичные дома и недалеко от центра. В них трехкомнатные квартиры имеют жилую площадь 56 квадратных метров, кухня — 13,8 квадратного метра, общая площадь 93,62 квадратного метра. В общем, средняя неплохая квартира.

Стоимость квадратного метра от 440 у.е., то есть долларов. Стало быть, это минимальная цена. Умножаем и узнаем, что выбранная нами квартира стоит как минимум 41 тысячу долларов.

Сколько же лет надо копить деньги, чтобы собрать такую сумму? Если учесть, что средняя зарплата в стране где-то 100 долларов в месяц, то за год она составит 1200 долларов. В общем, если не пить, не есть, не одеваться, то за 34 года можно собрать деньги на покупку такой квартиры. Но поскольку без еды и воды никак не обойтись, то половину зарплаты растратим на кефир и батоны. В таком случае сможем откладывать лишь 50 долларов. Значит, купим квартиру лишь через 68 лет, в возрасте примерно 88 лет.

Вот такая перспектива! Ясно, что хорошая квартира нам, среднестатистическим белорусам, никогда не светит. Давайте прикинем, сможем ли мы заиметь хотя бы небольшую квартиру в старом доме? Такие двухкомнатные стоят от 14 до 18 тысяч долларов. Возьмем за основу среднюю цену — 15—16 тысяч долларов. С нашей зарплатой и если мы будем питаться только батоном и кефиром, то в месяц сможем отложить лишь около 50 долларов, в год — 600. Сумму в 15 тысяч мы сможем собрать лишь через 25 лет.

Значит, в возрасте примерно 45 лет сможем купить в старом доме небольшую двухкомнатную квартиру. Вот теперь можем обзаводиться семьей. Правда, наша квартира нуждается в срочном ремонте, а это требует тысяч пять долларов, а у тебя из-за многолетнего слабого питания гастрит или туберкулез, и лечение тоже требует немало денег... В квартиру надо же купить хотя бы диван, шкаф, посуду... оплачивать высокие тарифы на коммунальные услуги... Как говорят белорусы, не жыццё, а выццё.

Рассмотрим еще один, более реалистичный вариант. Они женаты. Ему и ей по двадцать. Оба получают по сто долларов в месяц. Зарплата одного идет на питание и одежду, ребенка помогают растить родители. К тому же они помогают покупать нужные вещи. В таком случае можно более-менее существовать. А зарплату второго откладывать на квартиру. За год соберется 1200 долларов, за 10 лет — 12 тысяч. Через 34 года, на 54-м году жизни, эта семья сможет купить ту неплохую 3-комнатную квартиру площадью 56 метров. Или через 15—18 лет двухкомнатную квартиру в старом доме.

В общем, как ни крути, большинство граждан не имеет возможности даже в зрелом возрасте приобрести неплохую квартиру. У НАС, ПО СУЩЕСТВУ, УКРАЛИ ЖИЛЬЕ. За последние десять лет власти и страна потеряли более-менее отлаженную систему по решению жилищной проблемы. Не нужно возвращаться к бесплатным квартирам для всех, но подавляющая часть населения должна спокойно решать жилищную проблему за счет достойной оплаты своего труда. А это значит, нужно сделать все для того, чтобы как следует заработала экономика. Но Александра Лукашенко, похоже, волнует другое. На недавнем семинаре руководящих работников республиканских и местных органов он жаловался: "САМОЕ ГЛАВНОЕ — мы потеряли хорошо отлаженную систему идеологической работы". Неужели ЭТО самое главное? Неужели главное не жилье, а идеологическая работа?

В этом же выступлении он признал, что "народ живет нелегко, ситуация непростая". Еще бы! Наши расчеты показывают, что она просто катастрофическая. И что же предлагает Александр Григорьевич? А вот что: "И в этой ситуации надо идти к людям, надо писать и с экрана объяснять перед людьми", — говорит он. Выходит, надо не решать проблемы, а, как говорят в народе, компостировать людям мозги. Стало быть, и впредь будут красивые сладкие обещания и горькая реальность.

**Алесь ДРАБЧУК.**



*Еще тысячи людей живут в таких условиях. Квартиры в хороших домах стоят от 40 до 50 тысяч долларов. У вас есть такие деньги?*

**Фото IREX/ProMedia.**

## Кто платит за жилье?

В последние годы бремя финансовых расходов на строительство жилья активно перекладывалось на плечи самих граждан. Теперь немногие могут рассчитывать на социальное жилье. Ознакомьтесь с таблицей.

| Кто финансирует строительство жилья? | Какие объемы? | | |
|---|---|---|---|
| | 1990 г. | 1994 г. | 2002 г. |
| Из республиканского и местного бюджетов, госпредприятий и организаций | 3731 тысяча кв.метров | 1898 тысяч кв.метров | 219 тысяч кв.метров |
| Жилищно-строительные кооперативы и индивидуальные застройщики | 1048 тысяч кв.метров | 1170 тысяч кв.метров | — |
| Население | — | — | 2142 тысячи кв.метров |

Как видим, если в 1990 году за счет государственного финансирования строилось почти 4/5 жилья, а за счет средств граждан — пятая часть, то в прошлом граждане построили за свои средства около 80 процентов жилья.

## Слова...

**Жилищное строительство должно стать в ближайшие годы объектом приоритетного финансирования и пристального внимания государства.**

(Из тезисов программы кандидата в президенты Республики Беларусь А.Лукашенко, 1994 г.).

**Для граждан, имеющих право на бесплатное жилье, обеспечить строительство жилых домов за счет бюджетных средств и удовлетворить потребности этих граждан в жилье не позднее 1999 года (стоящих на учете по состоянию на 01.10.96 г.)... По прогнозным расчетам, к 2000 году ежегодный ввод в действие жилых домов превзойдет уровень 1990 года, что создаст реальные условия для снятия остроты жилищной проблемы в республике.**

(Из Основных направлений социально-экономического развития Республики Беларусь на 1996—2000 годы.)

## ...и факты

В 1990 году в Беларуси было введено в действие 5.282 тысячи квадратных метров общей площади жилья, в 2002 году — 2.825 тысяч квадратных метров, или почти в два раза меньше.

Вот так обстоит дело с выполнением обещания "превзойти уровень 1990 года" по вводу в действие жилых домов.

По данным той же государственной статистики, на начало 2001 года на учете нуждающихся в улучшении жилищных условий числилось 568,8 тысячи семей и одиноких граждан страны. Почти столько же, сколько и 10 лет назад.

Вот так выполнено обещание по "снятию остроты жилищной проблемы".

ПУЛЬС

## Груз з Канады каштуе 2 мільёны долараў

Гуманітарны груз коштам каля 2 мільёнаў долараў ЗША прыбыў у Магілёўскую вобласць з Канады ад грамадскай арганізацыі "Канадская дапамога ахвярам Чарнобыля".

Спонсарскую дапамогу ў дастаўцы 14 марскіх кантэйнераў аказаў ААБ "Беларусбанк". Канадская дэлегацыя з Броквіля на чале са старшынёй арганізацыі Дэвідам Шо даставіла ў вобласць медыцынскае абсталяванне, медыкаменты, прадукты харчавання, парашок для мыцця, адзенне, абутак, асабістыя пасылкі для дзяцей.

Як зазначылі арганізатары акцыі, гуманітарны груз будзе накіраваны лячэбным установам пацярпелых ад чарнобыльскай аварыі раёнаў, Магілёўскай гарадской бальніцы хуткай дапамогі і медсанчасці "Хімвалакно", а таксама перададзены ў школы-інтэрнаты для дзяцей-сірот.

**Віктар СЯРГЕЕЎ.**

## Усебеларускі фестываль нацыянальных культур

5 красавіка ў 15 гадзін у Мінску, у Палацы культуры і спорту чыгуначнікаў (Чкалава, 7) адбудзецца ўрачыстае адкрыццё V Усебеларускага фестывалю нацыянальных культур.

З 13 да 15 гадзін у фае палаца будзе экспанавацца выстава дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва народных майстроў з Мінска і рэгіёнаў краіны.

У святочным канцэрце возьмуць удзел Нацыянальны акадэмічны народны хор Рэспублікі Беларусь імя Генадзя Цітовіча, заслужаны ансамбль беларускай песні "Церніца", народны ансамбль танца "Гарадзенскія карункі", а таксама мастацкія калектывы і выканаўцы 20 нацыянальнасцяў.

Зараз у краіне зарэгістравана 112 нацыянальна-культурных аб'яднанняў армян, грэкаў, дагестанцаў, яўрэяў, карэйцаў, латышоў, літоўцаў, малдаванаў, немцаў, палякаў, рускіх, татараў, украінцаў, цыган, чувашоў, эстонцаў, казахаў і сірыйцаў.

**Марат ГАРАВЫ.**

## «Германія пад прыцэлам...»

У минскім кінатэатры "Перамога" працягваецца праграма нямецкага кіно "Германія пад прыцэлам. Нямецкі дэтэктыў: люстэрка свайго часу".

У паказе заяўлены карціны "Гандляр далікатэсамі", "Мяккія цацкі", "Блёкату наелася" і "Жахлівая казка".

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

## Ні дня без аварый

Ні адзін дзень не абыходзіцца ў Віцебску без аварый на водаправодных і каналізацыйных сетках, зношанасць якіх амаль паўсюдна перавышае 50 працэнтаў. Узрост падземных трубаправодаў на многіх участках складае 100 год.

Удаецца мяняць толькі па 150—200 метраў труб у год. Гэта амаль што нічога, калі ўлічыць, што ўся водаправодная сетка мае даўжыню каля 500 кіламетраў. Зношаны і амаль 300 кіламетраў каналізацыйных труб. Не дзіўна, што раз-пораз брудныя сцёкі трапляюць у Заходнюю Дзвіну, што выклікае абурэнне ў суседняй Латвіі, эколагі якой уважліва сочаць за якасцю дзвінскай вады на мяжы з Беларуссю.

Беднасць прадпрыемства "Віцебскводаканал" шкодзіць развіццю водаканалізацыйнай гаспадаркі ў горадзе. Да сённяшняга дня каля 180 вуліц Віцебска яшчэ не маюць водаправода. Каб яго правесці, трэба ўкласці 64 кіламетры труб. Пры тых тэмпах, якімі пракладваюцца трубы цяпер, для выканання гэтай праграмы спатрэбіцца каля 30 год!

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Пад судом — 86 чалавек

Суд Пінскага раёна і горада Пінска вынес рашэнне па іску гарадской пракуратуры аб кампенсацыі недастачы на складзе гатовай прадукцыі ў ААТ "Пінскае ВГА "Палессе".

Справа была ўзбуджана па факце недастачы, выяўленай у гэтым вытворча-гандлёвым аб'яднанні. У якасці адказчыкаў па справе праходзілі ўсе матэрыяльна адказныя асобы прадпрыемства.

Згодна з рашэннем суда, кампенсаваць страты давядзецца ўсім — майстрам, кладаўшчыкам, грузчыкам, наогул 86 работнікам.

Адказчыкі не змаглі даказаць сваю невінаватасць у стварэнні недастачы і, як асобы, што адказваюць за захаванасць даверанай ім маёмасці і якія падпісалі адпаведны дагавор наконт гэтага, павінны несці матэрыяльную адказнасць, лічыць суд.

Адказчыкі свой удзел ва ўзнікненні недастачы адмаўляюць. Такую буйную недастачу яны тлумачаць двума прычынамі: альбо згубілася таваратранспартная накладная, альбо гэта — добра запланаванае злачынства.

**Віктар КРОТ.**

## Злоўжываў уладай

Узбуджана крымінальная справа ў адносінах да старшыні Драгічынскага райвыканкама Сяргея Мамацюка.

Падчас следства ўстаноўлена, што кіраўнік раённай "вертыкалі" з карыслівых прычын, насуперак інтарэсам службы даў указанне старшыні калгаса імя Энгельса Драгічынскага раёна купіць па завышанай цане дом свайго сына Аляксандра Мамацюка, што размешчаны ў вёсцы Дзеткавічы, на тэрыторыі згаданай гаспадаркі.

Загад чыноўніка быў выкананы. На пасяджэнні праўлення калгаса, што адбылося ў кастрычніку 2002 года, было прынята рашэнне аб куплі для гаспадаркі прыватызаванага домаўладання за 15 мільёнаў 87 тысяч рублёў. Пры здзелцы не прымяняўся так званы паніжаючы каэфіцыент, у выніку чаго калгасу нанесены ўрон на суму каля 7 мільёнаў рублёў.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

ГАНЬБА!

## Высокамаральным крокам — у цывілізацыю

У Ваўкавыску перад невялікай плошчай знаходзяцца аўтастанцыя і чыгуначны вакзал. Тут заўсёды, акрамя глыбокай ночы, знаходзіцца мноства людзей. Плошча збірае дзяцей усіх узростаў, старэнькіх бабулек, маладзенькіх дзяўчат, настаўнікаў і медыкаў, людзей ад плуга і станка.

Ёсць на гэтай плошчы некалькі кіёскаў, у нейкай меры неабходных для пасажыра ці праходзячага гараджаніна. Сярод іх ёсць і папулярны сярод моладзі музычны кіёск, які без перапынку крычыць.

Можа, праводзяць пасажыраў маршам "Развітанне славянкі"? Не! Тых, хто ад'язджае, прыязджае, чакае, забаўляюць захапляючай "лірычнай" песенькай. І гучыць яна так: "Кто сказал, что нельзя дотянуться до п—ды. До п—ды, до п—ды...".

Тут жа швэндаюцца міліцыянеры. Дубінкі ды наручнікі, мабыць, прызначаны для тых, хто будзе абурацца гэтым? Гэта вам не Васюкі!

**Іван САЎКО, 67 гадоў.**

*г.Ваўкавыск.*

СІТУАЦЫЯ

# Трэшчына ў чэрапе

### Здарэнне

19 сакавіка 2002 г. Валерый Тарасаў ехаў на сваёй машыне па вуліцы Цюленіна ў пасёлку Калодзішчы. Было каля 17 гадзін, як потым устанавіў суд, рух быў інтэнсіўны. На абочыне вуліцы стаяла Галя Пражэнік, мясцовая жыхарка, яшчэ дзяўчынка. Стаяла спіною да руху. Калі машына Тарасава даехала да гэтай кропкі, Галя зрабіла крок у бок, якраз на праезную частку. Чаму яна гэта зрабіла, адзін Бог ведае. Але машына Тарасава ўдарыла яе люстэркам задняга віду, і дзяўчынка ўпала. Тарасаў спыніў машыну, пасля гэтага яны з жонкаю (яна таксама была ў машыне) адвезлі Галю ў бальніцу.

Уласна кажучы, я выкладаю тут версію Валерыя Тарасава.

На месцы здарэння былі сведкі, у тым ліку жанчына-медработнік. Яна агледзела дзяўчынку і канстатавала гуз на галаве. Тарасаў з жонкай, сведкі агледзелі Галю таксама і не знайшлі асаблівых пашкоджанняў. Тым больш што дзяўчынка апрытомнела і сама дайшла да машыны. У бальніцы (адной з мінскіх) у Галі знайшлі трэшчыну ў чэрапе, у той яго частцы, якая не арагавела па ўзросце.

Адным словам, Галя Пражэнік правяла ў бальніцы 13 дзён, потым пайшла ў школу. Як яна сябе адчувае зараз — крыху ніжэй. Па словах Тарасава, ён яе наведваў увесь час, вазіў садавіну, прапанаваў дастаць лекі — урач і маці Галі адмовіліся: усё ёсць.

Вернемся, аднак, да здарэння. Паводле слоў Валерыя Тарасава, яго "фольксваген" ехаў з хуткасцю, дазволенай у гэтым месцы. Да таго ж ніякіх папераджальных знакаў (там была насупраць школа) не назіралася. Ён, а таксама сведкі на папярэднім следстве і ў судзе пацвердзілі, што Пражэнік стаяла спінаю да дарогі. Потым яна прапусціла машыну, якая ехала перад Тарасавым, і зрабіла крок на праезную частку. Тут яе і збіла машына, дакладней, закранула. Калі б быў наезд, наступствы былі б куды больш цяжкімі.

Дарэчы, у бальніцы ўрач адразу папярэдзіў: "Магчымая аперацыя. Хто будзе плаціць за яе? Бацькі не могуць, у іх грошай няма. Значыць, вы?". У Тарасава не знайшлося на той момант патрэбнай сумы. А ўрач паставіў дыягназ: цяжкія цялесныя пашкоджанні. Гэта ўжо зусім іншыя юрыдычныя наступствы. Чэрапна-мазгавая траўма — сур'ёзная рэч.

### Момант небяспекі

Суд адбыўся 5 жніўня 2002 г. у Мінскім раённым судзе. Тарасаў Валерый Міхайлавіч быў асуджаны на 2 гады папраўчых работ з утрыманнем 20 працэнтаў заробку ў даход дзяржавы без пазбаўлення права кіравання транспартнымі сродкамі. Суд пастанавіў спагнаць з Тарасава В.М. на карысць Пражэнік Г.Ч. 1,5 мільёна рублёў, за паслугі адваката 56 тысяч 196 рублёў, на карысць 9-й клінічнай бальніцы г.Мінска 104 тысячы 664 рублі. У выніку набіраецца 1 мільён 716 тысяч 93 рублі...

Усю маёмасць у Тарасава апісалі, у тым ліку машыну. Ніводную рэч прадаць ён не можа — гэта будзе парушэнне. Валерый працуе інжынерам па абсталяванні ў адным з мінскіх магазінаў. У свой час ён скончыў Маскоўскі энергетычны інстытут, кваліфікацыя ў яго высокая. А зарплата — не вельмі, менш за 100 тысяч. Ён — вядомы ў Мінску майстра па рамонце халадзільнікаў. Пастаянна атрымлівае выгадныя заказы. Такім чынам сям'я зводзіць канцы з канцамі. Аднак без машыны зараз цяжкавата: характар работы патрабуе пастаянных раз'ездаў.

Чым кіраваўся, аднак, суд? З заключэння аўтатэхнічнай экспертызы вынікае, што Тарасаў меў тэхнічную магчымасць прадухіліць наезд шляхам экстраннага тармажэння з таго моманту, як убачыў Пражэнік. Суд таксама адзначыў, што заключэнне складзена ўсебакова, поўна і аб'ектыўна.

На судзе Валерый Тарасаў гаварыў, што стаж работы эксперта невялікі, што ён не ўлічыў час рэакцыі вадзіцеля і час спрацоўвання тармазной сістэмы. Суд у гэтым не засумняваўся, ён палічыў, што ўказаныя велічыні і разлікі праводзіліся на падставе ўстаноўленых для гэтага формул. Эксперт, адзначыў суд, мае вышэйшую тэхнічную адукацыю, таксама з'яўляецца старшым экспертам аддзела аўтатэхнічных экспертыз.

Суд таксама вызначыў момант узнікнення небяспекі: ён узнік на адлегласці 33 метраў. Ён наступіў тады, вызначыў суд, калі Пражэнік знаходзілася на адлегласці 0,9 метра ад праезнай часткі. Тарасаў жа сцвярджаў, што гэты самы момант наступіў тады, калі дзяўчынка зрабіла крок на праезную частку. Тут, праўда, узнікаюць сумненні.

Вы — вадзіцель. Едзеце па вуліцы, на абочыне — чалавек, які мае намер перайсці вуліцу. Чалавек глядзіць на ваша аўто і спакойна чакае. Другі варыянт: чалавек вывучае неба, на вас не глядзіць, здаецца, не збіраецца рухацца ні ўперад, ні ўзад. Вы, адпаведна, едзеце спакойна, вы правільна ацанілі абстаноўку. Раптам чалавек перастае вывучаць неба і робіць крок на дарогу... Вы — па тармазах, але позна. Наезд...

Гэта, зразумела, проста рэканструкцыя сітуацыі, не больш таго. Але яна дае падставу для сумнення. Пры сумненні, гаворыць нам навука юрыспрудэнцыя, перавага аддаецца таму, каго абвінавачваюць.

Суд вызначыў, што "ў дадзенай дарожнай абстаноўцы ён (Тарасаў. — **А.С.**) павінен быў прыняць меры да зніжэння хуткасці, да спынення транспартнага сродку, як таго патрабуюць Правілы дарожнага руху...". Выснова: паўторнай экспертызы не патрабуецца. Я, канешне, не збіраюся абвяргаць рашэнне суда, але, думаю, трэба ўлічваць усе абставіны справы. Калі ёсць хаця б адно сумненне ў поўнай даследаванасці справы — гэта сумненне трэба элементарна праверыць. Каб улічыць інтарэсы абодвух бакоў. Для гэтага патрэбны дадатковыя грошы і дзеянні. Але калі на шалях Феміды стаяць лёсы людзей, то, верагодна, грошы павінны адсоўвацца на другі план?

Валерый Тарасаў звярнуўся з касацыйнай скаргай у вышэйшую судовую інстанцыю — Мінскі абласны суд. Рашэнне раённага суда ён пакінуў без змяненняў. Далей — Вярхоўны суд. Тут узнікла цікавая калізія. Скарга трапіла да намесніка старшыні ВС У.М.Пташніка. Ён сваім рашэннем запатрабаваў справу для праверкі абгрунтаванасці прыгавору, а таксама прыпыніў выкананне прыгавору у частцы кампенсацыі шкоды.

Гэта справа руцінная: у Вярхоўны суд паступіла скарга асуджанага — яе трэба разгледзець. Уласна кажучы, ніякіх далёкасяжных высноў рабіць не трэба. Скарга Валерыя Тарасава таксама разгледжана, справа вывучана. Прыгавор пакінуты без змяненняў. Тарасаў быў на прыёме ў ВС. Што з гэтага будзе вынікаць — меркаваць устрымаюся.

### Багатыя і бедныя (Сям'я Тарасавых)

У сям'і Тарасавых двое дзяцей: сын і дачка. Сын дагэтуль вучыўся ў Мінскім медыцынскім універсітэце, на платным навучанні. За вучобу, натуральна, плаціў бацька. Цяпер сын быў вымушаны кінуць універсітэт, бо плаціць няма чым. Дачка яшчэ вучыцца ў школе, у яе таксама былі мары наконт вышэйшай адукацыі. Трэба думаць, ВНУ дачцэ цяпер таксама "не свеціць".

Жонка Валерыя Тарасава хворая. Яна працуе на выпадковай рабоце — вартаўніком. На іншую яе наўрад ці возьмуць. Заробкі — адпаведныя. Па сутнасці, сям'ю забяспечваў і забяспечвае адзін бацька. Сам ён некалькі гадоў служыў у ракетных войсках стратэгічнага прызначэння, потым пераехаў на радзіму жонкі, у Беларусь. Пачаў будаваць сваё новае жыццё. Як аказалася — не вельмі ўдала. Сям'я жыве ў Міханавічах.

### Багатыя і бедныя (Сям'я Пражэнікаў)

А ў сям'і Пражэнікаў таксама не ўсё так мажорна, як ім бы хацелася. Маці, Часлава Францаўна, працуе ў мясцовым упраўленні ЖКГ. З мужам шлюб яна скасавала, а кватэра ў сям'і двухпакаёвая, малагабарытная, на пяць чалавек — малавата.

Муж жыве ў асобным пакоі, астатняя сям'я — у другім. Сын Чаславы Францаўны не так даўно ўладкаваўся на адзін з мінскіх заводаў, але атрымлівае нямнога. Сама гаспадыня таксама мае зусім невялікую зарплату, менш за 100 тысяч у месяц. На гэтыя грошы Часлава Францаўна вымушана гадаваць дачку Галю, плаціць за кватэру і камунальныя паслугі. Кожны месяц яна вымушана выдаткоўваць пэўную суму на лекі для дачкі.

Галя вучыцца ў чацвёртым класе. Яе даволі часта прыводзяць са школы сябры. Бывае, на ўроках крычыць ад галаўнога болю. Тады настаўніца вядзе яе ў медпункт. Але які ў школе медпункт? Іншы раз у Галі нямее ці то рука, ці нага. Пасля здарэння яна стала нервовай і можа сарвацца ў любы момант.

Сама маці дзяўчынкі хранічна хворая. З Тарасавым яна справы мець не хоча. На судзе яна патрабавала (па словах Валерыя Міхайлавіча) Тарасава павесіць (!), а машыну спагнаць на кошт пацярпелай у якасці кампенсацыі. Аб Тарасаве без нянавісці гаварыць не можа. У тое, што выплата кампенсацыі ўсё ж адбудзецца, — не верыць. Нягледзячы на рашэнне Вярхоўнага суда...

***

Ну і хто ў дадзенай сітуацыі мае рацыю? Тарасавы альбо Пражэнікі? Альбо суд? Альбо лепш раглядаць гэтую справу ў сацыяльным кантэксце?

Я маю на ўвазе: ёсць адна нешчаслівая сям'я і ёсць сям'я не зусім шчаслівая. Адна выжывае за кошт небагатых дзяржаўных падачак, другая на дзяржаву спадзеву не мае, а спадзяецца толькі на сябе. Чаму і жыве лепш, чым першая. Відавочны знаёмы канфлікт: калі ты маеш больш, чым я, то ты мне — вораг. Ты не толькі мне вораг, ты ўсяму грамадству вораг. Усё — у строгай адпаведнасці з сённяшняй дзяржаўнай палітыкай.

А як гэтаму не быць, калі такія адносіны да людзей ініцыятыўных і прадпрымальных старанна культывуюцца зверху? Прэзідэнт можа быць задаволены. Яму бліскуча ўдалося падзяліць краіну на тры сацыяльныя групы: жабракі, бедныя і крыху багатыя. Такой краінай лёгка кіраваць. З такой краінай рабіць можна што заўгодна...

Так што справа зусім не ў канфлікце канкрэтных людзей. Тут, аказваецца, усё больш глыбока. Калі хочаце, зрэз сучаснага беларускага жыцця.

**Андрэй СЯРЖАН.**

